Дадатак да газэты „За праўду“ № 8, 1928 г.

# ІНСТРУКЦЫЯ

## ЯК ДАМАГАЦЦА ЎРАДОВАЙ БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

**на падставе ўставу ад 31. VII. 1924 г. і распараджэньня Мін. Рэл. Спраў і Публ. Асьветы ад 7. I. 1925 г.**

## Закон аб арганізацыі беларускага школьніцтва

**з дня 31. I. 1924 г. ухвалены Соймам 9. VII. 1924 г. (Выпіска).**

**Арт. 3.** У пачаткавых урадавых школах, якія знаходзяцца ў гмінах, дзе ёсьць 25 прац. насяленьня беларусаў, на ўрадова сцьверджанае жаданьне бацькоў 40 дзяцей—беларускай народнасьці, якія належаць да аднаго школьнага вокругу, забясьпечана ім будзе навука ў роднай матчынай мове.

Калі ў дадзеным школьным вокрузе няма 40 дзяцей, бацькі якіх зажадалі-б навукі ў роднай мове беларускай, выкладовай мовай у школе ёсьць мова ўрадовая (польская). Калі-ж у дадзеным школьным вокрузе побач з бацькамі, якія жадаюць для сваіх дзяцей навукі ў мове беларускай, ёсьць ня менш прынамсі як 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі ў мове ўрадовай, выкладаньне тады вядзецца ў дзьвюх мовах з тым, што палавіна лекцыяў вызначаецца на навуку ў мове беларускай; калі ж у дадзеным вокрузе няма 20 дзяцей, бацькі якіх жадаюць навукі ў мове ўрадовай,—**мовай выкладовай ёсьць мова беларуская.**

Існуючыя ў адным вокрузе паасобныя школы з мовай выкладовай польскай і з мовай выкладовай беларускай будуць па магчымасьці злучаны ў адну школу супольную—дзьвюх-моўную.

**Арт. 4.** У школах пачаткавых 1, 2 і 3 клясовых, так прыватных, як і ўрадовых, з моваю выкладовою няпольскаю, абавязкава ёсьць навучаньне мовы ўрадовае, каб запэўніць веду гэтае мовы ў слове і пісьме, патрэбную для мэтаў практычных.

У школах пачаткавых 4, 5, 6 і 7 клясовых, так прыватных, як і ўрадовых, з моваю выкладовою няпольскаю, абавязкава вядзецца папольску навучаньне мовы ўрадовае, польскай гісторыі і навукі аб сучаснай Польшчы так, каб была запэўнена веда іх дзеля пераходу вучняў у школы сярэднія агульна-адукацыйныя, з мовай выкладовай польскай, або дзьвёх-моўныя.

### Выясьненьне 3 арт.

**1) Дзе мусіць быць беларуская школа.**

Згодна з арт. 3 закона аб беларускіх школах з 31-га ліпня 1924 г., беларуская ўрадовая школа павінна быць адчынена ўладаю там, дзе сярод насяленьня ёсьць ня менш 25% (25 працэнтаў) беларусаў і дзе гэтага зажадаюць бацькі ня менш, як ад 40 дзяцей у школьным веку.

Гэта адносіцца да Наваградзкага ваяводзтва (паветы: Валожынскі, Стаўпецкі, Лідзкі, Навагрудзкі, Нясьвіжскі і Слонімскі), Палескага ваяводзтва (паветы: Лунінецкі, Пінскі, Косаўскі, Пружанскі, Драгічынскі, Кобрынскі, Століноскі і Берасьцейскі), Віленскага вокругу (паветы: Сьвяцянскі, Дзісьненскі, Пастаўскі, Маладэчанскі, Вялейскі, Ашмянскі, Троцка Віленскі і Браслаўскі) і з Беластоцкага ваяводзтва (пав.: Горадзенскі і Ваўкавыскі).

**Увага:** Закон гэты ня мае сілы ў паветах: Беластоцкім, Бельскім і Сакольскім.

**2) Як урадова сцьвярджаецца жаданьне бацькоў.**

Кожын бацька, які жадае, каб яго дзіця вучылася ў беларускай школе, або матка (калі бацька памёр ці не выпаўняе бацькоўскай улады), або праўны апякун (калі бацька й матка ня жывуць ці не выпаўняюць бацькоўскай улады) падае свайму павятоваму Школьнаму Інспэктару асобна ад сябе дэклярацыю з уласнаручным подпісам, засьведчаным гмінаю, Старостам, Міравым Судзьдзёю ці Натарыусам. (Форму дэклярацыі глядзі на адвароце 2 ой старонкі).

**3) У якім выпадку адчыніцца беларуская ўрадовая школа.**

Калі ў школьным вокрузе (гэта значыць ў аднэй вялікай вёсцы ці некалькіх малых вёсках) няма ніякай школы, і бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў ня менш, як на 40 вучняў, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у беларускай школе, а адначасна зусім ня знойдзецца бацькоў, ці іх будзе менш, як на 20 дзяцей, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у польскай школе, то ўлада мусіць адчыніць у гэтым школьным вокрузе беларускую школу.

**4) У якім выпадку ўрадовая польская школа ператворыцца ў беларускую.**

Калі ў вёсцы ўжо існуе польская ўрадовая школа, а бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў ня менш як 40 вучняў, што жадаюць вучыць сваіх дзяцей у беларускай школе, то ўлада ў гэтай вёсцы мусіць ператварыць польскую школу ў беларускую.

**5) У якіх выпадках можа быць дзьвёх-моўная (двуязычная) школа (польска беларуская), у якой палова гадзін навукі выкладаюцца папольску, а палавіна пабеларуску.**

1. Калі ў тэй ці іншай вёсцы ўжо існуе польская школа і ў гэтым школьным вокрузе бацькі пададуць Школьнаму Інспэктару дэклярацыяў ня менш, як на 40 вучняў, што жадаюць каб у гэтай школе навукі выкладаліся ў беларускай мове, а адначасна знойдуцца бацькі, якія пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня менш, як на 20 вучняў, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся толькі папольску, то школа зробіцца дзьвёх-моўнаю.

2. Калі ў школьным вокрузе ўжо існуе беларуская школа, а знойдуцца бацькі, якія пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня менш, як на 20 вучняў, каб у школе навукі выкладаліся выключна ў польскай мове, то школа перарабіцца ў дзьвёх-моўную, г. з. польска-беларускую.

3. Калі ў школьным вокрузе няма ніякай урадовай школы, і бацькі пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня менш як на 40 вучняў, што жадаюць, каб была адчынена беларуская школа, а адначасна знойдуцца бацькі, якія пададуць Інспэктару дэклярацыяў ня менш як на 20 вучняў, што жадаюць, каб была адчынена польская школа, — то ўлада мусіць адчыніць дзьвёх-моўную школу, г. з. польска беларускую.

**6) У якім выпадку можа адчыніцца чыста польская школа.**

Калі ўлада адчыняе ўрадовую школу ў такой вёсцы, дзе няма яшчэ ніякай школы, або ёсьць прыватная, а бацькі не паруцяцца, каб адчынілася беларуская школа й не пададуць аб гэтым Інспэктару дэклярацыяў ня менш як на 40 вучняў, то адчыніцца польская школа.

**7) У якім выпадку можа застацца і надалей ужо існуючая польская школа.**

Калі ў школьным вокрузе ўжо існуе польская школа, і ня знойдуцца бацькі, якія падалі-б Інспэктару дэклярацыяў ня менш як на 40 вучняў, каб навука ў гэтай школе выкладалася пабеларуску, то ў гэтым вокрузе застанецца польская школа і на далей.

### Выясьненьне 4 арт.

**Як і дзеля чаго павінна выкладацца польская мова ў беларускіх школах.**

1. У беларускіх 1, 2 і 3-х аддзяловых школах польская мова выкладаецца, як прадмет, каб вучні, скончыўшыя беларускую школу, маглі карыстацца з польскай мовы ў слове і пісьме дзеля практычных мэтаў, прыкладам: чытаць, пісаць і гаварыць.

2) У чыста беларускіх 4, 5, 6 і 7 аддзяловых школах польская мова выкладаецца, як прадмет, а таксама выкладаюцца папольску гісторыя і геаграфія Польшчы, каб вучні былі падгатаваны для пераходу ў беларускія або польскія сярэднія школы, прыкладам: гімназіі, вучыцельскія сэмінарыі і іншыя.

## Выясьненьне Распараджэньня Мін. Рэлігійных Вызнаньняў і Публічнай Асьветы

**ад 7. I. 1925 г. у справе ўставу аб арганізацыі беларускага школьніцтва ад 31. VII. 1924 г.**

*(Да артыкулаў 3 і 4 уставу).*

§ 1. Беларускія ўрадовыя школы могуць адчыняцца ў Віленскім, Навагрудзкім, Палескім ваяводзтвах, у Горадзенскім і Ваўкавыскім паветах Беластоцкага ваяводзтва.

§ 2. Народная школа ёсьць даступна для дзяцей усіх нацыянальнасьцяў. Кожная вёска ці хутар належыць да пэўнага школьнага вокругу (абводу). У кожным такім школьным вокрузе павінна быць адна публічная ўрадовая школа.

§ 3. „Publiczne szkoły powszechne“—гэта значыць дзяржаўныя, у якія могуць паступаць дзеці ўсіх нацыянальнасьцяў дадзенага школьнага вокругу.

§ 4. У ваяводзтвах Віленскім, Навагрудзкім, Палескім, а таксама Горадзенскім і Ваўкавыскім паветах Беластоцкага ваяводзтва могуць быць школы беларускія або польскія, або польска-беларускія.

§ 5. Права на жаданьне бацькоў вымагаць навучаньня сваіх дзяцей у роднай беларускай мове маюць жыхары тэй гміны, у якой, згодна апошняй перапісі ў 1921 г., ёсьць ня менш як 25% беларусаў сярод агульнага ліку насельнікаў.

§ 6. Публічная народная школа павінна быць адчынена там, дзе вызначыць дэкрэт аб арганізацыі школы.

§ 7. b. Школьны век дзіцяці лічыцца ад 1 верасьня (сентября) таго каляндарнага году, у якім дзіця скончыла ці мае скончыць 7 гадоў і да канца таго школьнага году (30 чэрвеня), у якім дзіця канчае 14 гадоў жыцьця, гэта значыць ад 7 год без 4 месяцаў да 14 гадоў і 4 месяцаў.

§ 8. Права выступаць з жаданьнем навучаньня сваіх дзяцей школьнага веку маюць: 1) бацька; 2) матка, калі бацька памёр ці не выпаўняе бацькаўскай улады; калі няма бацькі і маткі, то праўны апякун.

Аб жаданьні навучаньня дзяцей у беларускай мове бацькі ці апякуны падаюць дэклярацыі Школьнаму Інспэктару свайго павету.

На дэклярацыі ўласнаручны подпіс павінен быць завераны гмінаю, ці Міравым Судзьдзёю, ці Натарыусам, ці старостам.

УВАГА: Калі бацька ці матка, ці апякун няпісьменны, то за яго падпісваецца хто іншы, і сцьвярджаецца ўжо гэты подпіс.

Калі Школьнаму Інспэктару бацькі з якога-колечы школьнага вокругу пададуць дэклярацыі ня менш як на 40 дзяцей аб тым, што хочуць вучыць сваіх дзяцей у беларускай мове, то Інспэктар наводзіць справкі:

1, ці ёсьць у гміне 25% (дваццаць пяць працэнтаў) беларусаў.

2, ці бацька, або матка, або апякун жывуць з дзяцьмі ў дадзеным школьным вокрузе.

3, ці дзеці, на якія пададзены дэклярацыі, жывы, і ці адпавядае іх век школьнаму.

4, ці апякун ёсьць праўны.

§ 9. Выкладовая мова з польскай на беларускую можа быць заменена толькі ў пачатку школьнага году.

Дэклярацыі можна падаваць Інспэктару ў працягу ўсяго школьнага году, але будуць мець сілу на наступны школьны год толькі тыя, **якія будуць складзены да 31 сьнежня (декабря) папярэдняга школьнага году.**

§ 10. Аб тым, што бацькі ня менш як на 40 дзяцей падалі дэклярацыі, каб іх дзяцей вучылі ў беларускай мове, Школьны Інспэктар да 1-га лютага (февраля) паведамляе аб гэтым люднасьць таго школьнага вокругу, ці ня будзе рэшта бацькоў прасіць Інспэктара, каб іх дзяцей вучылі ў польскай мове.

Аб гэтым абвестка Інспэктара вывешваецца ў гміне або ў вёсцы на відным мейсцы, толькі не на школьным будынку.

Дэклярацыі аб жаданьні навучаньня дзяцей у польскай мове будуць мець сілу толькі тыя, якія будуць пададзены Інспэктару да 30 красавіка (апрэля).

§ 11. Калі адна, ці некалькі вёсак не ўваходзяць у той ці іншы школьны вокруг, то можа быць часова і прыблізна вызначаны школьны вокруг.

§ 12. Разглядзіўшы дэклярацыі, Школьны Інспэктар не пазьней 31 траўня (мая) робіць свае заключэньне і з усімі матар'яламі справу перадае Куратару. На падставе дадзеных Інспэктарам прапазіцый, Куратар у працягу месяца рашае аб мове навучаньня у тэй ці іншай школе і аб сваім рашэньні праз абвестку паведамляе заінтэрасаваную люднасьць. Апроч таго, аб сваім рашэньні куратар паведамляе аднаго з тых бацькоў, якія жадаюць навучаньня сваіх дзяцей у беларускай мове і аднаго з тых, якія жадаюць навучаньня сваіх дзяцей у польскай мове.

Пастанову Куратара бацькі могуць абжалаваць да Міністра Асьветы ў працягу 14 дзён, з дня паведамленьня праз абвестку.

§ 13. Існуючыя ў данны момант народныя школы з выкладоваю мовай беларускаю, або польскаю захоўваюць гэту мову й далей.

Зьмена выкладовай мовы ў гэтых школах можа зьдзейсьніцца толькі па жаданьню бацькоў згодна §§ 8, 9, 10, 11 і 12.

Калі-ж бацькі ад 20 вучняў пажадаюць, каб у беларускай школе навукі выкладаліся папольску, а рэшта дзяцей будзе ня меньш як 40, то зараз-жа школа робіцца дзьвёх-моўнаю, г. з. польска-беларускаю; а калі з рэшты дзяцей не набярэцца 40, то выкладовая мова ў гэтай школе будзе польская.

§ 14. Існуючыя ў даны момант беларускія публічныя школы, якія не адпавядаюць уставе і § 4 гэтага распараджэньня праз Кураторыум і Міністра Асьветы, паступова будуць да гэтай уставы і распараджэньня дапасаваны.

§ 15. Аб злучэньні аддзельных публічных школ з выкладоваю моваю толькі беларускаю пастанаўляе куратар.

§ 16. Праграмы ўсіх прадметаў публічных школаў дзьвёх-моўных, а таксама праграмы польскай мовы і гісторыі Польшчы для чыста беларускіх школаў будуць вызначаны асобным распараджэньнем.

**Распараджэньне Міністра Унутраных Спраў ад 12-га лютага 1925 года.**

Каб войты сьвярджалі подпісы на дэкларацыях аб жаданьні беларускай школы ды пры тым зусім бясплатна.

# Практычныя рады.

**А. Што павінен зрабіць кожны бацька-беларус ці матка, ці апякун, якія маюць дзяцей у школьным узросьце.**

1. Кожны бацька, матка ці апякун павінны дбаць, каб іх дзеці вучыліся ў сваёй роднай беларускай школе.

2. Кожны беларус павінен скарыстаць свае права дамагацца беларускай школы для сваіх дзяцей.

3. Кожны бацька, матка ці апякун павінны напісаць дэкларацыю аб тым, што жадаюць, каб іх дзеці вучыліся ў роднай беларускай мове, абавязкава пайсьці ў гміну, заверыць там свой подпіс і праз паўнамоцніка пад расьпіску гэту дэкларацыю здаць Школьнаму Інспэктару да 31-га сьнежня гэтага 1926 г.

**Увага:** Заверыць дэкларацыю можа, апроч гміны, яшчэ Міравы Судзьдзя, Натарыус, Старооства. Заверка на дэкларацыі подпісу солтысам, ці сьвяшчэньнікам, ці ксяндзом, ці вучыцелем, ці кім іншым ня будзе мець ніякае сілы, і дэкларацыя забракуецца.

4. Дэкларацыю трэба падпісваць у прысутнасьці войта.

5. Калі бацька, ці матка, ці апякун няпісьменны, то трэба папрасіць пісьменнага чалавека, каб у прысутнасьці войта расьпісаўся, як за няпісьменнага бацьку, і войт заверыць ужо гэты подпіс.

**Увага:** Калі ёсьць няпісьменны бацька, а матка пісьменная, то матка, ці дзіця ня можа падпісвацца на дэкларацыі за бацьку: трэба, каб падпісаўся хто іншы і дарослы.

6. Войт ня мае права адмовіцца ад заверкі подпісу, бо нарушыў-бы загад Міністра Унутраных Спраў ад 12 лютага 1925 г.

**Увага:** 1) Калі войт адмовіцца пасьведчыць подпіс, то зараз-жа трэба аб гэтым паведаміць Галоўную Управу Т.-ва Бел. Шк.
2) Заверкі подпісаў у гміне ня трэба адкладваць на апошнія дні, бо войт ня ўсьпее пасьведчыць усіх подпісаў да 31 сьнежня.

7. Толькі тады адчыніцца беларуская ўрадавая школа або ператворыцца існуючая польская школа ў беларускую, калі бацькі з аднаго школьнага вокругу пададуць Школьнаму Інспэктару як можна больш дэкларацыяў, а прынамсі ня менш, як на 40 вучн., што хочуць, каб іх дзеці вучыліся ў беларускай мове.

8. Калі Куратар на дэкларацыі не адчыніць беларускай школы, або не ператворыць існуючай польскай школы ў беларускую, то бацькі павінны скардзіцца Міністру Асьветы.

**Б. Што павінен зрабіць паўнамоцнік, якога бацькі выбяруць скласьці Школьнаму Інспэктару дэкларацыі.**

1. Запісаць на асобным лісьце імёны і прозьвішчы бацькоў і апякуноў, імёны іх дзяцей, напісаць паперу да Школьнага Інспэктара, асабіста па сьпіску здаць у Інспэктарыят дэкларацыі да 31 сьнежня (декабря), узяць ад Інспэктарыята пасьвітаваньне на сьпіску бацькоў, сьпіс з паквітаваньнем хаваць у сябе, а копію прыслаць у Галоўную Управу (Вільня, Сьв.-Ганны 2).

**В. У якой мове пішацца і запаўняецца форма дэкларацыі.**

1. Дэкларацыю трэба пісаць, або пабеларуску, або папольску. Калі дэкларацыя будзе напісана паруску, то Інспэктар можа забракаваць.

У форме дэкларацыі трэба напісаць: імя і прозьвішча бацькі ці маткі, ці апякуна, назоў вёскі, гміны, павету, імёны дзяцей. Непатрэбныя словы ў дэкларацыі закрэсьліць.

**Г. Як павінна дапамагчы наагул беларускае грамадзянства, каб для сваіх дзяцей мець сваю родную беларускую школу.**

1. У тым школьным вокрузе (абводзе), дзе няма ніякай школы, беларусы павінны дамагацца, каб была адчынена беларуская школа; а дзе існуе ўжо польская школа, каб яна ператварылася ў беларускую.

2. Кожны пісьменны, або больш сьвядомы грамадзянін павінны растлумачыць няпісьменнаму бацьку ўставу аб арганізацыі школьніцтва ад 31./VII. 1924 г., а таксама распараджэньні Міністра Асьветы ад 7./I. 1925 г,, памагчы напісаць дэкларацыю, старацца, каб дэкларацыяў было пададзена як можна больш, сьлядзіць, каб дэкларацыі былі заверана гмінаю і паданы Інспэктару да 31 сьнежня (декабря):

3. Калі хто будзе адмаўляць ці запалохваць тых бацькоў, якія на падставе закону і распараджэньня Міністра Асьветы будуць падаваць Інспэктару дэкларацыі, каб і дзяцей вучылі ў беларускай мове, таго трэба пацягнуць да судовай адказнасьці, як за баламуцтва грамадзян.

4. Калі навет ёсьць у вёсцы прыватная беларуская школа—ўсё роўна трэба дамагацца ўрадовай беларускай школы.

**Д. Форма паперы, якую піша паўнамоцнік і перадае разам з дэкларацыямі Школьнаму Інспэктару.**

**Пану Школьнаму Інспэктару.**

у горадзе . . . . . . .
Паўнамоцніка жыхароў вёскі . . . . .
. . . . . . воласьці . . . . . . павету
(прозьвішча і імя) . . . . . . . . . .

**З А Я В А.**

У зьвязку з распараджэньнем Міністра Рэлігійных Спраў і Публічнай Асьветы ад 7./I. 1925 г. ў справе школьнага ўставу ад 31./VII. 1924 г., я, ніжэй падпісаны паўнамоцнік сялян вёскі . . . . . . . . . . . . . . . пры гэтым перасылаю падпісаныя і завераныя дэкларацыі ў ліку . . . шт. на . . . дзяцей у справе беларускае выкладовае мове ў школе ў вёсцы . . . . . . . . .

Адначасна падаю да ведама, што ўсе дэкляранты даручылі мне інфармаваць інспэктарат аб патрэбных яму дадатковых данных.

(Подпісы) . . . . . . . . .

Дня . . . . . . . . 192 г.

**Е. Форма сьпіску бацькоў, якія праз паўнамоцніка падалі дэкларацыі Школьнаму Інспэктару аб навучаньні сваіх дзяцей у беларускай мове.**

**С Ь П І С.**

Грамадзян вёскі . . . . . . . , гміны . . . . . . , павету . . . . . . . . . , якія, на падставе распараджэньня Мін. Рэлігійных Спраў і Публічнай Асьветы ад 7./I. 1925 г. склалі Школьнаму Інспэктару . . . дэкларацыі аб жаданьні навучаньня дзяцей у роднай беларускай мове і сьпіс дзяцей школьнага ўзросту.

| | Імя і прозьвішча бацькі, ці маткі, ці праўнага апякуна. | Імёны дзяцей, пададзен. у дэкларац. |
|---|---|---|
| 1 | | |
| 2 | | |
| 3 | | |

**БАЦЬКІ! падавайце Інспэктару, як можна, больш дэкларацыяў аб навучаньні вашых дзетак у беларускай мове.**

**Школьны век дзіцяці лічыцца ад 7 гадоў без 4-х месяцаў да 14 гадоў і 4-х месяцаў.**

**ГРАМАДЗЯНЕ! дамагайцеся аб ператварэньні польскіх школаў у беларускія.**

**Формы дэкларацыяў і інструкцыі можна атрымаць:**

1) У Галоўнай Управе Т-ва Белар. Школы, Вільня, вул. Сьв. Ганны 2.
2) У Глыбоцкай Акружной Управе, Т-ва Белар. Школы, м. Глыбокае—Варшаўская вул. 69.
3) У Наваградзкім Т-ве Белар. Школы, Наваградак, Карэліцкая вул. 23.
4) У Радашкоўскім Т-ве Беларуск. Школы м. Радашкавічы.
5) У Гуртках Т-ва Бел. Школы.

**Форма Дэкларацыі.**

# Дэкларацыя.

*Я ніжэй падпісаны (ая)* ........................................ *грамадзянін (ка)*
(імя і прозьвішча)

*Польскае Рэчыпаспалітае, беларускае нацыянальнасьці, жыхар* ........................
(назоў вёскі, места)

*гміны* ........................ *павету* ........................ *як бацька *)—маці—*
(назоў воласьці) (назоў павету)

*праўны апякун дзіцяці—дзяцей—у школьным веку.*

*1.* ........................ (Імя дзіцяці) *3.* ........................ (Імя дзіцяці)

*2.* ........................ (Імя дзіцяці) *4.* ........................ (Імя дзіцяці)

*на падставе артыкулу 3 уставу з 31 ліпня 1924 г., зьмяшчаючага некаторыя пастановы аб арганізацыі школьніцтва (Dz. U. R. P. № 79, poz. 766), жадаю ўвядзеньня ў існуючую — маючую адкрыцца публічную народную школу* ........................ *беларускае выкладовае мовы.*
(назоў вёскі, места)

*Дня* ........................ *192* ........ *г.* ........................
(уласнаручны подпіс).

**Да Школьнага Інспэктара**

*ў м.* ........................
(назоў места)

*) У тэксьце дэкларацыі непатрэбныя словы закрэсьліць.



XI.1928


Друкарня Я. Левіна, Вільня, Нямецкая № 22.


Выд. БСРПК „Змаганне"